№9
Травень 1998

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна—96"




# Самотны "юбілей"

## Тры гады пасьлярэферэндумнай дыскрымінацыі беларускай мовы

Ёсць на Беларусі адна «таямніца», разгадаць якую ніяк ня могуць замежнікі, што наведваюць нашую краіну. Бадай, найдакладней вызначыла сэнс яе пасол Латвіі ў Беларусі спадарыня Інгрыда Лаўрэнцэ. Калі яе спыталі, што найбольш зьдзівіла яе ў першыя дні знаходжаньня ў нашай краіне, яна адказала: тое, што на вуліцах сталіцы амаль не чуваць беларускае мовы...

У любога «цывілізаванага», «еўрапейскага» чалавека адразу ж зьяўляецца пытаньне: «Чаму так?» Можна было б зараз у адказ прачытаць лекцыю пра тое, як расійская імперыя пачынаючы з канца 18-га стагодзьдзя вынішчала беларускую мову, забараняла яе. Можна прыгадаць бальшавікоў зь іх вынішчэньнем нацыянальнай інтэлігенцыі і Хрушчова, які на прыступках Беларускага дзяржаўнага універсітэту сказаў сакраментальныя словы: «Чым хутчэй беларусы адмовяцца ад роднай мовы, тым хутчэй яны прыйдуць да камунізму».

Камунізм, як вядома, Хрушчоў абяцаў пабудаваць да 1980 года, і беларускія партыйцы, на чале з Машэравым, кінуліся выконваць «наказ» правадыра. Апошнія беларускія школы ў Менску былі зачынены напачатку 70-х... Можна было б распавесьці пра вынішчэньне беларускай мовы, якое планамерна вялося напрацягу стагодзьдзяў, падрабязна, з фактамі ды каментарыямі. Але навошта? Ды і не мае гэта цяпер сэнсу, бо, здавалася б, Незалежнасьць 1991 года ня толькі перакрэсьліла ўсялякія намаганьні русіфікатараў ды асімілятараў, але і дала шанц беларускаму народу паўнакроўна адрадзіць сваю мову і культуру. Так яно і было. Аж да траўня 1995 года, да знакамітага рэферэндуму, пасьля якога рускай мове ў Беларусі быў нададзены роўны статус зь беларускай. На справе гэта азначала, што беларуская мова была ператворана зь дзяржаўнай у другасную. Бо што азначае «раўнапраўе» у сітуацыі экспансіі рускай мовы, поўнай перавагі яе ва ўсіх сферах жыцьця, тлумачыць ня варта. Да таго ж беларускія ўлады (і найперш прэзідэнт, які ня толькі не размаўляе па-беларуску, але і пры кожным зручным і нязручным моманце стараецца прынізіць яе і выкарыстоўвае беларускія словы выключна дзеля зьнявагі мовы) занялі пазіцыю ўсялякага «патранажу» рускай мовы, як нібыта пакрыўджанай у часы "гвалтоўнай беларусізацыі".

Вось і атрымалася, што, калі ў 1995 г. у школах Менску 70 працэнтаў першакласьнікаў вучыліся па-беларуску, то ўжо ў 1997 г. – толькі 7... Беларуская мова амаль цалкам зьнікла з дзелавой (справаводчай) сферы (нават Міністэрства культуры свае дакументы дасылае па-руску). Беларускамоўныя шыльды паступова замяняюць на рускамоўныя. Газеты зь беларускамоўных ператвараюць (дзеля справядлівасьці: у нас жа дзьве мовы дзяржаўныя) у двухмоўныя, а двухмоўныя – у цалкам рускамоўныя. (Але яшчэ ні адна рускамоўная газета ня стала —

(Працяг на стар. 3)

# Хроніка

***12 сакавіка*** — у Слоніме гарвыканкам і райвыканкам афіцыйна адмовілі недзяржаўнай газеце "Газета Слонімская" у акрэдытацыі, у сувязі з тым, што "рэгламентам работы гарадскога выканаўчага камітэта прадугледжана прысутнасьць на яго паседжаньнях толькі прадстаўнікоў газеты "Слонімскі веснік", адным з заснавальнікаў якой зьяўляецца выканаўчы камітэт".

***У траўні*** —затрыманы 2.04.98 г. пад час правядзеньня акцыі пратэсту супраць анэксіі Беларусі Расіяй 15-гадовы Зьміцер Васьковіч, пасьля таго, як ён некалькі дзён быў пратрыманы ў дзіцячым разьмеркавальніку і міліцыі без ежы, быў выпушчаны пад падпіску аб нявыезьдзе, але ад перажываньняў і голаду захварэў і пакладзены ў бальніцу з дыягназам: язва страўніка.

***1 траўня*** — затрыманы некалькі сяброў сацыял-дэмакратычнай партыі, у тым ліку старшыня сацыял-дэмакратаў М.Статкевіч, старшыня "Маладой Грамады" С. Марцалеў, А.Станкевіч, А.Завадскі, М.Колас, С.Пялеса. А.Завадскага пры затрыманьні жорстка зьбілі, душылі, у выніку чаго ён зьвярнуўся з заявай у пракуратуру.

***1 траўня*** — пад час здымкаў першамайскіх падзеяў у Менску людзьмі ў цывільным затрыманы фотакарэспандэнты Сяргей Грыц (Associated Press) і Васіль Фядосенка (Reuter). Пасьля некалькіх гадзінаў знаходжаньня ў міліцэйскім пастарунку, іх сфатаграфавалі, а затым выпусьцілі.

(Працяг на стар. 6)

# Аляксей Шыдлоўскі: Два месяцы ў «Валадарцы»

19 гадовы сябра «Маладога Фронту» Аляксей Шыдлоўскі, асуджаны ў лютым на паўтары гады калоніі ўзмоцненага рэжыму, дагэтуль знаходзіцца ў Менскім сьледчым ізалятары. Адразу пасьля вынясеньня прысуду менскім гарадскім судом Аляксея перавялі ў іншую камеру (з камеры для падсьледных ў гэтак званую «асуджзёнку», дзе ўмовы ўтрыманьня больш цяжкія).

12 траўня маці і жонка Шыдлоўскага змаглі перадаць Аляксею чарговую перадачу і мелі спатканьне зь ім. Па словах маці Раісы Іванаўны, Аляксей і ягоныя сукамернікі маюць вельмі абмежаваныя магчымасьці глядзець тэлевізар і чытаць газеты. Нават прэзідэнцкая прэса да іх трапляе зрэдку, ня кажучы ўжо пра незалежныя выданьні, якіх у турме проста няма. Што да тэлебачаньня, то ледзь ня першым пытаньнем палітвязьня было: «Зь якім лікам згулялі нашыя хакеісты?» Маці нават разгубілася, бо выніку матчу ня ведала...

Як распавяла Раіса Іванаўна, маральны стан яе сына трывалы: Аляксей трымаецца добра. Больш-менш здавальняючы на сёньня. улічваючы ўмовы на Валадарцы, і стан здароўя. Зараз Аляксей жыве ў чаканьні, і чаканьне гэтае выказваецца адным словам: этап. 3 дня на дзень хлопца павінны адвезьці ў калонію, дзе, па расповядах зэкаў, усё ж крыху больш сьвежага паветра (ня столькі ў маральным сэнсе, колькі ў самым літаральным, фізічным). Да таго ж, пры аднастайнасьці турэмнага жыцьця – гэта хоць нейкія зьмены. Па просьбе Аляксея яго родныя зьбіраюцца выпісаць яму на зону некалькі перыядычных выданьняў. Куды перавядуць палітвязьня, дакладна невядома, але, паводле некаторых зьвестак, ён застанецца ў Менску: пераедзе ў калонію ўзмоцненага рэжыму па вул. Кальварыйскай.

За кратамі Аляксей пісаў вершы і нататкі ў сшытку, але ўсе ягоныя запісы сканфіскаваныя аховай. Вядома таксама, што паміж ім і Паўлам Севярынцам няма сувязі па «турэмнай пошце». Хутчэй за ўсё, хлопцы сядзяць у розных карпусах СІЗА. Аляксей напісаў бацькам і жонцы тры лісты, але ніводзін зь іх яны не атрымалі...

Жонка Аляксея Іна Піменава хвалюецца, што ў новым мейсцы ўтрыманьня мужа яе ня пусьцяць на спатканьне зь ім. Іна і Аляксей павенчаныя ў касьцёле, але да яго зьняволеньня не пасьпелі расьпісацца ў загсе.

# Абаронцам на Беларусі таксама патрэбная абарона

У сярэдзіне траўня Менская гарадская калегія адвакатаў мае намер разгледзець пытаньне аб прафесійнай дзейнасьці адваката Веры Страмкоўскай. Вынікам гэтага разгляду можа стаць пазбаўленьне Страмкоўскай права на адвакацкую дзейнасьць на тэрыторыі Беларусі. Фармальнай падставай незадаволенасьці адвакатам стала прыватная пастанова ў дачыненьні да яе судзьдзі Маскоўскага раённага суду Менску А. Ф. Вальковіча, якое, на думку В. Страмкоўскай, «не грунтуецца на законе і скажае фактычныя абставіны справы».

30 красавіка 1998 г. у Маскоўскім судзе разглядалася хадайніцтва адваката Страмкоўскай аб зьмяненьні меры стрыманьня яе падабароннаму – дэпутату Вярхоўнага Савета Андрэю Клімаву. У самым пачатку працэсу судзьдзя прапанаваў абаронцы апальнага парламентарыя даць суду падпіску аб неразгалошваньні таямніцы сьледства. Але адвакат ужо дала такую падпіску сёлета 20 лютага сьледчаму па справе А. Клімава. Гэта пацьвердзіў і пракурор, паказаўшы дакумент аб дачы падпіскі ў матэрыялах справы. Далей падзеі пайшлі дзіўным чынам. У той час як В. Страмкоўская не адмаўляючыся даць падпіску аб неразгалошваньні, зьвяртала ўвагу, што такая падпіска ўжо маецца ў справе, судзьдзя Вальковіч ацаніў яе словы як адмову і загадаў адвакату пакінуць залу пасяджэньняў. Такім чынам, рашэньне аб лёсе А. Клімава (з лютага дэпутат-бізнесовец утрымліваецца у СІЗА) вырашаўся без адваката...

Па словах судзьдзі, патрабаваньне да Страмкоўскай абумоўлена пастановай Пленума Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь. Аднак гэты дакумент зьяўляецца кіруючым цыркулярам для судзьдзяў і ня можа абавязаць кіравацца ім адвакатаў. Пастанова супярэчыць арт. 141 Крымінальна-працэсуальнага кодэксу Беларусі, згодна зь якім адвакат павінен даваць падпіску сьледчаму, але не суду. Як бачым, В. Страмкоўская паступіла згодна заканадаўства. У выпадку разгалошваньня таямніцаў справы свайго падабароннага адказнасьць адваката прадугледжана у адпаведнасьці з падпіскай, дадзенай 20 лютага. В. Страмкоўская зьвяртае ўвагу таксама на прынцып роўнасьці бакоў у судовым працэсе: лагічна, што ўмову, прапанаваную абаронцы, у такім разе павінен выконваць і абвінаваўчы бок, г. зн. пракурор. Інакш, у дадзеным выпадку, парушаюцца і права абвінавачанага на абарону, і этыка судовага працэсу.

Вера Страмкоўская прадстаўляе ў сьледчых справах і на судах інтарэсы іншых прадстаўнікоў беларускай апазіцыі: старшыні сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада» М. Статкевіча, лідэра «Маладой Грамады» С. Марцэлева, сябры «Маладога Фронту» З. Васьковіча, 10 сацыял-дэмакратаў і аднаго сябра БНФ, арыштаваных пасьля шэсьця 1 траўня, а таксама старшыні ЗАТ «Расьвет» В. Старавойтава. Актыўнасьць у палітычных справах адвакатаў на Беларусі ўжо ня першы раз прыводзіць да ціску на гэтых адвакатаў з боку ўладаў праз падкантрольныя ім органы юстыцыі. Гэты працэс ініцыяваны прэзідэнтам Лукашэнкам і ягоным атачэньнем, узаконены прэзідэнцкім указам у чэрвені 1997 году. Ён прадпісвае ўсім адвакатам уступаць у калегіі адвакатаў, даваць іхнім чыноўнікам інфармацыю аб усіх сваіх кліентах, ў адваротным выпадку Мінюст мае права пазбавіць іх ліцэнзіі (што азначае — права на прафесію, калі ня згодны з умовамі Лукашэнкі і сьпецслужбаў). За апошнія некалькі месяцаў дзяржава такім чынам выкрэсьліла са сваіх афіцыйных сьпісаў шэраг прафесіяналаў. Найбольш гучнымі былі прэцэдэнты зь вядомымі юрыстамі, сумленнымі праваабаронцамі Надзеяй Дударавай і Гары Паганяйлам. Абодва працягваюць працу ў міжнародных альбо замежных (Маскоўская калегія адвакатаў) структурах. Але да ўдзелу ў справах як адвакатаў улады іх не дапускаюць. Мэта зразумелая: паспрабаваць пакінуць без юрыдычнай дапамогі перш за ўсё грамадзянаў, якія церпяць перасьлед за сваю нязгоду з рэжымам.

**Яна ЖДАНОВІЧ**

# Арыштанту 13 гадоў...

14 траўня ў Менску быў затрыманы 13-цігадовы школьнік Раман Шкор, які ў дварах, прылеглых да адміністрацыі прэзідэнта расклейваў улёткі аб маючай адбыцца дэманстрацыі пратэсту і дабрачынным рок-канцэрце ў падтрымку палітвязьняў. Затрымліваў падлетка член Беларускага патрыятычнага саюза моладзі, які прадставіўшыся і паказаўшы пасьведчаньне асобы, а затым сілаю зацягнуў Рамана Шкору ў пастарунак па вуліцы Карла Марса. Падлетак пасьпеў запомніць імя чалавека, які яго затрымаў. БэПэСээМаўца завуць Валерый Вашкевіч.

У пастарунку супрацоўнікі міліцыі канфіскавалі ўсе ўлёткі, спалілі іх у сьметніку, зьнялі адбіткі пальцаў і сфатаграфавалі падлетка. Падчас допыту міліцыянты цікавіліся, дзе працуюць бацькі затрыманага і ці займаюцца яны палітыкай. Праз дзьве гадзіны, пасьля складаньня пратаколу і не паведаміўшы бацькам аб факце затрыманьня, 13-цігадовага хлапчука вызвалілі.

Раман Шкор лічыць, што падчас гэтага здарэньня былі парушаныя ягоныя грамадзянскія і дзіцячыя правы і таму школьнік зьвярнуўся з заявай ў праваабарончы камітэт «Вясна-96».

18 траўня В. Р. Папуша, настаўніца школы № 4, дзе вучыцца Р. Шкор, заявіла падлетку, што калі ён і далей будзе распаўсюджваць улёткі БНФ, яна адправіць яго туды, адкуль яго выпусьцілі, надоўга.

**Эдвард ТАРЛЕЦКІ**

# Былі б людзі, а артыкулы знойдуцца

## Стары прынцып чэкістаў часам не спрацоўвае

5-га траўня, нягледзячы на праліўны дождж, на менскай плошчы Якуба Коласа сабралася купка людзей. Іх з цягам часу станавілася ўсё больш, і праз хвілін трыццаць па прасьпекце Скарыны рушыла па ходніках амаль дзьве сотні грамадзянаў.

— Само неба плача па нашых хлопцах, — казалі жанчыны сталага веку на прасьпекце.

— Сёньня ў камеры, прынамсі, ёсць чым дыхаць, — зазначыў крыху пазьней адзін з былых вязьняў "Валадаркі".

Акцыю ў падтрымку маладых палітычных зьняволеных наладзіў у Менску «Малады Фронт». Два ягоных сябры сёньня за кратамі. 19-гадовы Аляксей Шыдлоўскі ў няволі ўжо амаль што 9 месяцаў і чакае этапу ў калонію ўзмоцненага рэжыму. 21-гадовы лідэр арганізацыі Павел Севярынец у турме другі месяц – пад сьледствам, якое шукае, у чым хлопца можна абвінаваціць. Удзельнікі акцыі 5 траўня несьлі пад дажджом транспаранты з патрабаваньнем вызваліць Севярынца і Шыдлоўскага. Некаторыя з іх былі напісаныя на белай тканіне чырвонай фарбай і пад патокамі дажджу пачыналі сцякаць, быццам крывёй... Гэтага, аднак, зусім не заўважалі вельмі шматлікія ў той дзень работнікі сьпецслужбаў зь відэакамерамі ў руках. Яны, то ішлі побач, то хаваліся за слупы (аднаго разу нават міліцыянт з групы нагляду за дэманстрантамі абурана адштурхнуў відэааматара ў цывільным прэч ад калоны). Нават міліцыя пачынае стамляцца ад вынікаў відэаздымкаў такога кшталту...

Па шляху да опернага тэатру, на прыступках якога прайшоў невялікі мітынг, інцыдэнтаў не адбылося. Некалькі сталых кабетаў з партрэтамі вязьняў у руках і на грудзях на скрыжаваньні каля цырку прапанавалі ісьці мітынгаваць пад сьцены "Валадаркі". Безумоўна, тады б сутычкі з сьпецатрадамі былі б немінучыя. І дэманстранты вырашылі пазьбегнуць іх.

— Тыя, хто сёньня імкнецца забрудзіць імя майго брата, брудзяць самі сябе і такімі бруднымі застануцца назаўсёды! — сказала на мітынгу сястра маладзёвага лідэра Ганна Севярынец. – Такія ж, як Павел, назаўсёды застануцца сімвалам чысьціні Беларусі... – Ганна таксама ад імя сваёй сям'і падзякавала за падтрымку ўсім добрым людзям. Дарэчы, на акцыю прыйшлі ня толькі сябры палітвязьняў па «Маладым Фронце», але і спачуваючая моладзь, прадстаўнікі сацыял-дэмакратаў і Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Было даволі шмат сталых людзей.

Калі мітынг абвясьцілі скончаным, акцыю працягнулі некалькі людзей сталага веку: яны кінулі ў лужыны пад ногі два вялікія партрэты Лукашэнкі і растапталі іх. Потым акуратна выкінулі сьмецьце.

Не пасьпелі ўдзельнікі акцыі разьехацца па хатах, як пачаўся «хапун». Мужчыны ў цывільнай вопратцы на звычайных (г. зн. з цывільнымі нумарамі) легкавіках пад'язджалі да аўтобусных прыпынкаў ці купак ідучых вуліцамі людзей, і тыя не пасьпявалі апамятацца, як некага ўжо везьлі ў пастарунак. Невядомыя захапілі ў той вечар 10 чалавек. Захоп аднаго зь іх — сябры сацыял-дэмакратычнай партыі Зьміцера Марчука, адбыўся на вачах нямецкай журналісткі, якая потым была проста ў шоку ад убачанага і параўнала беларускія сьпецслужбы з дзеяньнямі ўсходнегерманскай "штазі" (былым нямецкім КГБ). Сярод іншых затрыманых – Уладзімір Лабковіч, Вадзім Канапацкі, Юрась Губарэвіч, Сяржук Шмялеў, Віктар Жагунь Пад час захопу апошні, ратуючыся ад людзей у цывільным, выскачыў на праездную частку вуліцы і быў зьбіты машынай. З разьбітай галавой, акрываўленага, В. Жагуня ўсё ж прывезьлі ў пастарунак і толькі потым выклікалі "хуткую дапамогу". Міліцыянты ды іхняе начальства спалохалася, мусіць, таму, што В. Жагунь напісаў скаргу ў пракуратуру. Праз тры гадзіны ўсе затрыманыя былі выпушчаныя на волю.

**Тацьцяна СЬНІТКО**




*На здымку: шэсьце ў абарону палітвязьняў на вуліцах Менску.*

# Самотны юбілей

*(Пачатак на стар. 1)*

дзеля справядлівасьці — нават двухмоўнай). Наступ на беларускую мову ішоў і ідзе па ўсіх мажлівых кірунках. Але найперш зачыняюцца, вынішчаюцца беларускамоўныя садкі ды школы. Беларускамоўнай жа вышэйшай навучальнай установы на Беларусі няма ніводнай – усе выключна рускамоўныя...

Такім чынам, адна з прыгажэйшых і багацейшых славянскіх моваў (так лічыў Адам Міцкевіч) пастаўлена на мяжу зьнікненьня. Прычым самым цынічным, самым езуіцкім чынам. Зроблена так, нібыта самі беларусы адмаўляюцца ад роднай мовы. Цэлы народ выстаўляецца на пасьмешышча ўсяму сьвету. Між тым перапісы ды і той жа рэферэндум сьведчаць, што па меншай меры ад аднаго да трох мільёнаў (гэта больш, чым насельніцтва некаторых еўрапейскіх дзяржаў) сьвядома карыстаюцца беларускай мовай ў паўсядзённым жыцьці і зусім не зьбіраюцца выракацца яе. Не зьбіраюцца, але... Газеты час ад часу "радуюць" іх паведамленьнямі кшталту: "У Савецкім раёне г. Менску няма ніводнай беларускамоўнай школы", альбо "У Оршы няма ніводнага беларускамоўнага вучня ў першым класе"... Так, колькасьць беларускамоўных школ і садкоў няўхільна скарачаецца, ВНУ няма ніводнай, тэлебачаньне і радыё практычна рускамоўныя, як і абсалютная большасьць газетаў. Усё часьцейшымі становяцца паведамленьні ў друку пра тое, што людзей зьбіваюць сярод белага дня толькі за тое, што яны размаўлялі па-беларуску... Усё гэта азначае, што перспектыва ў сьвядомых беларусаў і іхніх дзяцей адабрана, што мову іхнюю планамерна вынішчаюць. А гэта азначае, што калі сёньня еўрапейскія ( і найперш славянскія) народы не зьвернуць увагу на дыскрымінацыйную этналінгвістычную сітуацыю ў Беларусі і не дапамогуць тым мільёнам беларусаў, якія супрацьстаяць асіміляцыі, то праз адно-два пакаленьні з карты Еўропы можа зьнікнуць цэлы народ...

**Андрэй НАЛІВА**

# Павел Севярынец: "З Бацькаўшчыны мне бегчы няма куды"...

Мінуў месяц, як за кратамі Павел Севярынец. Адзіны з дзесяткаў затрыманых 2 красавіка, хто дагэтуль не на волі.

Распачаўшы сапраўдную вайну з беларускай моладзьдзю, улады Беларусі сёньня лічаць асабліва небясьпечнымі для сябе маладзёвых лідэраў. Таму й шукаюць любую нагоду, каб расправіцца зь імі. І тое, што для гэтай расправы цяпер абраны менавіта Павел, які зьяўляецца адным зь кіраўнікоў "Маладога Фронту", гаворыць само за сябе. "Малады Фронт" прызнаецца самім рэжымам адным з цэнтраў маладзёвага руху супраціву.



За свае 21 год Павел Севярынец пасьпеў з залатым медалём скончыць школу з мастацкім ухілам, паступіць на геаграфічны факультэт БДУ і правучыцца там некалькі гадоў, пакуль яго ня змусілі сыйсьці ўвесну 1997-га году ў акадэмічны адпачынак. Да таго часу ён стаў ўжо прыкметнай асобай у колах менскай моладзі, якая прагнула зьменаў у грамадстве і пакутліва перажывала падзеі апошніх гадоў на Беларусі.

Улетку 97-га Павел быў абраны адным з сустаршыняў толькі што створанага "Маладога Фронту". Выступаючы тады на першым зьездзе арганізацыі, лідэр фронтаўскай моладзі гаварыў пра непрымальнасьць найбольш радыкальных метадаў барацьбы з дыктатурай: на вуліцах Менску, па ягоных словах, не патрэбны "палестынскія варыянты". Маладыя беларускія патрыёты абралі для змаганьня мірныя сродкі: мітынгі і пікеты, беларускія дыскатэкі і спартовыя спаборніцтвы... У хуткім часе многія журналісты ды проста назіральнікі пачалі выказваць такую думку: менавіта моладзь з "МФ" змагла ўнесьці ў жыцьцё беларускай апазіцыі малады запал і новыя метады дэманстрацыі няскоранасьці народу. Неўзабаве гэта "пацьвердзіў" і сам рэжым: большая частка ўсіх рэпрэсіяў на Беларусі зь лета мінулага году прыпадае менавіта на сяброў "Маладога Фронту". Іх зьбіваюць, штрафуюць, кідаюць у "Валадарку", асуджаюць на гады калоніі ўзмоцненага рэжыму за надпіс на сьцяне "Жыве Беларусь!" Але моладзь не здаецца. Калі ўлады распачалі сёлета ў лютым судзілішча над двума маладымі патрыётамі — Аляксеем Шыдлоўскім і Вадзімам Лабковічам, іхнія сябры ўзьнялі новы лозунг: "Нам балюча, але мы сьмяемся!" Працягваючы займацца зборам подпісаў за вызваленьне палітычных вязьняў, "Малады Фронт" адначасова ўдарыў па рэжыму сьмехам: правёў сваю, альтэрнатыўную, Алімпіяду, якая мела прыкметны рэзананс...

> *...Большая частка ўсіх рэпрэсіяў на Беларусі зь лета мінулага году прыпадае менавіта на сяброў "Маладога Фронту". Іх зьбіваюць, штрафуюць, кідаюць у "Валадарку", асуджаюць на гады калоніі ўзмоцненага рэжыму за надпіс на сьцяне "Жыве Беларусь!"...*

Зразумела, што гэткая тэндэнцыя — рост сімпатыі да патрыётаў Беларусі — не магла не падацца "небясьпечнай" уладам.

Зьвяртае на сябе ўвагу і вось што. Незадоўга да арышту Паўла Севярынца адна зь недзяржаўных газет — "Наша Ніва" — зьмясьціла на сваіх старонках ягонае апавяданьне. Галоўны герой яго, малады хлопец, нечакана здагадваецца, што пакуль ён займаўся будзёнымі справамі, у краіне пачалі разгортвацца драматычныя падзеі. Вырашаецца лёс краіны, разумее герой, і ўсе яго сябры недзе там, на пярэднім краі падзеяў. Ён вагаецца, ці не далучыцца да іх, але баіцца, цягне час і праз гэта ўрэшце гіне ад рук азьвярэлых "ахоўнікаў парадку" ва ўласнай хаце...

Сапраўды, відаць, гэта страшна для ўлады: калі чалавек, які бачыць яе злачыннасьць, ня толькі не маўчыць, але і гуртуе вакол сябе моладзь...

Калі маці і бацька Паўла ў сярэдзіне красавіка вярталіся з адпачынку, яны яшчэ ня ведалі. які ўдар іх чакае. Сын — ужо паўмесяца ў турме! Яго абвінавачваюць ва ўчыненьні крымі-нальнага злачынства! Тут жа лёс паслаў новы ўдар: памёр маленькі ўнук, сын Паўлавай сястры. Хлопчыку было 1 год і тры месяцы, у яго ад нараджэньня быў парок сэрца. Не ачуняў ад наркозу, не перажыў аперацыю.

Кастусь Севярынец, бацька Паўла, распавёў, што аперыраваць і лячыць маленькага ўнучка браліся некалі амерыканскія лекары. Але тут здарылася "сварка" нашага прэзідэнта з Фондам Сораса, і апошні, з прычыны замарожваньня яго рахункаў на Беларусі, ня змог прафінансаваць паездку хлопчыка ў Амерыку. "Яны забралі ў мяне ўнука, — робіць цяпер выснову спадар Кастусь. І дадае: — Падобна, цяпер хочуць пазбавіць і сына"...

Дзядуля Паўла — ветэран Вялікай Айчыннай вайны, узнагароджаны медалямі і ордэнамі. Маладыя гады ён аддаў барацьбе з гітлераўскім фашызмам, які, хочацца дадаць, цяпер ухваляе беларускі прэзідэнт як фактар гуртаваньня немцаў...

> ...Як бы радасна залямантавалі ўсе гэтыя хрушчовы-кавалёвы-зімоўскія, — калі б Павел не вярнуўся ў турму — схаваўся альбо папрасіў палітычны прытулак у замежжы! "З маёй Бацькаўшчыны мне бегчы няма куды", — заявіў палітвязень і ў прызначаны час вярнуўся ў камеру...

На пахаваньне свайго пляменьніка Павел Севярынец быў адпушчаны на трое сутак з турмы. Улады "па-чалавечы паспачувалі" яму, узяўшы слова, што ён вернецца. Ці — правяралі яго? Уявіце сабе на хвіліну, як бы радасна залямантавалі ўсе гэтыя хрушчовы-кавалёвы-зімоўскія, — калі б Павел не вярнуўся ў камеру — схаваўся альбо нават папрасіў палітычны прытулак у замежжы! "З маёй Бацькаўшчыны мне бегчы няма куды", — рашуча заявіў палітвязень падчас кароткага перапынку свайго зьняволеньня. І ў прызначаны час вярнуўся ў камеру... Праз пару дзён, 23 красавіка, адбылася сустрэча сваякоў з Паўлам у турме (хто быў у гэтым доўгім пакоі, падзеленым шклянымі перагародкамі, той не забудзе яго ўсё жыцьцё). Умовы ўтрыманьня пасьля вяртаньня Паўла рэзка зьмяніліся ў горшы бок. Калі раней, як ён адзначаў у сваім інтэрв'ю журналістам, на шэсьць нараў у камеры было столькі ж чалавек — цяпер туды "падсялілі" яшчэ людзей і вязьні сьпяць у некалькі зьменаў. Зразумела, што да гэтага дадаецца цесната, недахоп сьвежага паветра, псіхалагічныя стасункі людзей у чатырох сьценах. І — хваробы. За тры дні на волі Павел моцна прастыў, што пацягнула ў турэмных умовах абвастрэньне яго хранічных захворваньняў (страўніка і інш.) 24 красавіка родныя Паўла падалі ў медычную частку СІЗА заяву з просьбай аказаць медычную дапамогу палітвязьню. Ва ўстановах, назвы якіх пачынаюцца афіцыйна з "УЖ...", ужо, здаецца, ня толькі зьняволеныя, але і начальнікі, і ахова з большага навучыліся адрозьніваць "палітычных" ад усіх астатніх. Але трэба ўлічваць, што тамтэйшыя так званыя медыкі часьцей за ўсё чульлівыя да хваробаў людзей у камерах гэтаксама, як і сьцены гэтых камераў. Прынамсі, пра гэта ёсьць процьма прыкладаў.

У той жа дзень, 24-га, суд Маскоўскага раёну Менска не задаволіў хадай-ніцтва адваката П. Севярынца аб зьмяненьні для яго меры стрыманьня.

**Ш**то інкрымінуюць Паўлу Севярынцу "органы"? Калі прааналізаваць ход падзеяў, то адказ адзін: яны ня ведаюць самі. Не абвінавачваць жа хлопца ва ўзначальваньні маладзёвай арганізацыі, у пісаньні артыкулаў і апавяданьняў альбо ў сьпяваньні песьняў ля помніка Якуба Коласу 2 красавіка!..

Спачатку сьледчыя схапіліся за ўжо выпрабаваны ў барацьбе з апазіцыяй артыкул крымінальнага кодэксу пад нумарам 186³ удзел у масавых беспарадках. Але гэта абсурд, бо ў "дзень інтэграцыі" беспарадкаў не было (пакуль іх ня сталі ўтвараць аператыўнікі ці ўвогуле невядома хто ў цывільным адзеньні) Абвінавачваньне хуценька перакваліфікавалі на артыкул 201 частку 2 — злоснае хуліганства. Было абвешчана, што П. Севярынец быццам бы паламаў мікрафон на прысьвечаным "сьвяту яднаньня народаў" канцэрце. І нібыта браў удзел у спальваньні расейскага сьцягу. Галоўным доказам сьлед-чыя лічылі зроблены міліцыяй відэазапіс. Але "за ўдзел у несанкцыяна-ваным шэсьці" пасьля 2 красавіка судзілі па адміністратыўных справах шмат людзей, і ў хуткім часе зьмест відэазапісу стаў вядомы зацікаўленай грамадскасьці. Як можна было ўбачыць падчас гэтых судоў, на міліцэйскім відэазапісе і сапраўды фігуруе Павел Севярынец. Але ўсё, што ён робіць (стаіць, сьпявае, размаўляе з людзьмі) толькі хворы розум можа назваць нейкім парушэньнем. Зусім лагічна, што відэакасета хутка зьнікла. Як паведаміў бацьку Паўла сьледчы Ігар Голубеў, — зьнікла ў невядомым накірунку. За гады праўленьня прэзідэнта Лукашэнкі гэта не адзіны выпадак. Першай, як памятаем, была касета з запісам зьбіцьця ў парламенце тры гады таму дэпутатаў-апазіцыянераў.

Замест ранейшага 205-га артыкула сьпецслужбы знайшлі новыя. І абод-ва — з разьдзелу "Дзяржаўныя злачынствы" (разьдзел 6 Крымінальнага кодэксу). Гэта артыкул 71 — парушэньне нацыянальнага і расавага раўнапраўя. Яго пінкертоны вычыталі ў газеце "Маладзёвы весьнік", якую рэдагаваў П. Севярынец.

Яшчэ адно з абвінавачваньняў, якое думаюць прад'явіць Севярынцу — "заклікі да зьвяржэньня альбо зьмяненьня канстытуцыйнага ладу Рэспублікі Беларусь". Каб не было рэальным асуджэньне чалавека на Беларусі за ягоную любоў да Радзімы, гэты пункт справы гучаў бы сьмешна. Растлумачу чаму. Па-першае, артыкул № 67 у былыя часы менаваўся проста: "антысавецкая агітацыя і прапаганда" — такім чынам, мы вяртаемся да тыпова савецкага пераследу дысідэнтаў за "асабліва небяспечныя дзяржаўныя злачынствы".

> ...На міліцэйскім відэазапісе і сапраўды фігуруе Павел Севярынец. Але ўсё, што ён робіць толькі хворы розум можа назваць нейкім парушэньнем. Зусім лагічна, што гэтая відэакасета хутка зьнікла...

Лішне, напэўна, і казаць, што падобныя справы — кампетэнцыя не пракуратур, а КДБ. Па-другое, Беларусь пры Лукашэнку ўжо мае прэцэдэнты спробаў выкарыстаньня гэтага арты-кула. Тыя, якія вядомыя аўтару гэтых радкоў, адносяцца яшчэ да 1996 году. "Заклікі да зьвяржэньня ўлады" спрабавалі "павесіць" на паэта Славаміра Адамовіча. Напярэдадні лістападаўскага рэферэндуму і нейкі час пасьля яго тым жа 67-м артыкулам КДБ праз Маскоўскую пракуратуру спрабавала, як дубінай, памахаць над галавой некалькіх незалежных журналістаў у Менску (аўтар гэтых радкоў таксама належыць да іх). Справу аб нейкіх "закліках..." па заданьню замежных арганізацыяў" заводзілі і спынялі тады двойчы. Максімальны прадугледжаны тэрмін пакараньня па гэтым артыкуле — 10 гадоў турмы. Мінімальны — да трох гадоў. Вяртаючыся да справы Паўла Севярынца, адзначу, што такія ж тэрміны могуць "сьвяціць" і па артыкуле 71-м. Відавочна, што гэтае "гаданьне на Крымінальным кодэксу" і высоўваньне абвінавачваньняў з усё больш жорсткімі тэрмінамі "адсідак" — намаганьне зламаць волю Паўла. А таксама і ўсіх, хто ведаў яго на волі. Нездарма сьледчы Голубеў, пры тлумачэньні бацьку палітвязьня прычынаў "немагчымасьці" зьмяніць меру стрыманьня, заўважыў: маўляў, не ўсё Павел гаворыць, што трэба, а трэба яшчэ і нейкія імёны... Чацьвёра сутак "выбівалі кампрамат" на "Малады Фронт" і асабіста Севярынца ў 15-гадовага Зьміцера Васьковіча, якога тады сьледства зрабіла "падзельнікам": узбудзіла справу па тым самым артыкуле, што й да Паўла.

**З**ьняволеньне лідэра "МФ" не адштурхнула моладзь ад актыўнага супраціву. Чарговай акцыяй у падтрымку Паўла Севярынца заяўлены шэсьце і мітынг на 5 траўня. Адразу пасьля падачы гэтага дакументу ў Менгарвыканкам адзін з заяўшчыкаў, Вадзім Канапацкі, быў схоплены на ганку будынка і пасаджаны на 10 сутак пад арышт за ўдзел у акцыі 2 красавіка...

**Таццяна СЬНІТКО**

# Яшчэ адзін прысуд за «Графіці»

**Трое беларускіх падлеткаў за напісаньне лозунгаў на сьценах асуджаныя кожны на год пазбаўленьня волі з адтэрміноўкай на год...**

Усяму сьвету сталі вядомыя імёны двух маладафронтаўцаў Аляксея Шыдлоўскага і Вадзіма Лабковіча, асуджаных толькі за тое, што яны пісалі на сьценах лозунгі палітычнага характару.

Улады Беларусі па-ранейшаму разглядаюць графіці — адзін з самых распаўсюджаных спосабаў моладзі выказваць свае думкі — як крымінальнае злачынства.

18 траўня суд Цэнтральнага раёну г. Менска разглядаў справу трох юнакоў, у тым ліку і непаўналетняга, якія сёлета 28 лютага расьпісалі сьцены дамоў у цэнтры сталіцы Беларусі.

Былыя студэнты універсітэту радыёэлектронікі і інфарматыкі васемнаццацігадовыя Алесь Мухін і Андрэй Гілевіч, а таксама семнаццацігадовы студэнт Беларускай палітычнай акадэміі Павел Мурашка, два месяцы таму, надвячоркам вяртаючыся з канцэрта гурта "NRM", вырашылі паўтарыць подзьвіг ранейасуджаных маладафронтаўцаў. У дварах, што прылягаюць да Кіеўскага сквера маладыя людзі пісалі на сьценах дамоў, а таксама на будаўнічых агароджах лозунгі кшталту «Жыве Беларусь», «Луку на муку», «Беларусь у Еўропу Лукашэнку ў ж...», а каля надпісаў зьмяшчалі выявы нацыянальнага сьцягу.

Міліцыя затрымала іх далёка за поўнач, калі яны размалёўвалі ў нацыянальныя колеры альтанку аўтобуснага прыпынку.

Допыты ў Цэнтральным РАУСе доўжыліся да раніцы. У адносінах да двух паўналетніх удзельнікаў акцыі была ўзбуджаная крымінальная справа паводле трох артыкулаў Крымінальнага кодэксу РБ: 201-га «злоснае хуліганства», 96-га «нанясеньне стратаў маёмасьці» і 205-га «прыцягненьне непаўналетняга да злачынных дзеяньняў. На П. Мурашку была ўзбуджаная справа паводле двух першых узгаданых артыкулаў.

Пазьней бацькі затрыманых хлопцаў выплацілі кошты матэрыяльных стратаў, што былі нанесеныя розным арганізацыям і камунальнай службе гораду. Гэта значыць грошы (крыху больш за 4 мільёны рублёў), што былі выдаткаваныя на пераафарбоўку «запэцканых сьценаў».

Алеся Мухіна і яго сакурніка і калегу па вулічнай творчасьці Андрэя Гілевіча 28 сакавіка выключылі зь Дзяржаўнага Ўніверсітэта радыёэлектронікі. Цікава, што тагачасны в. а. рэктара Валадзько, які азнаёміўся з матэрыяламі справы і быў галоўным ініцыятарам адлічэньня хлопцаў: падпісаў адпаведны загад, а цяпер атрымаў грант, і знаходзіцца ў ЗША на шасьцімесячнай стажыроўцы. І тэма стажыроўкі — дэмакратызацыя беларускага грамадства...

Трое абвінавачаных, так бы мовіць мастакоў, у адрозьненьні ад сваіх папярэднікаў, чакалі суда на волі. Хаця, паводле інфармаванай крыніцы з пракуратуры Цэнтральнага раёна вядома, што сьледства настойвала на зьмяшчэньні маладых людзей пад варту да суда. Нягледзячы на станоўчыя характарыстыкі з розных установаў, нягледзячы на абставіны, якія б маглі змякчыць долю віны падсудных , а таксама не зважаючы на палымяныя прамовы трох адвакатаў і грамадзкага абаронцы ад камітэта «Вясна-96», юнакі былі прызнаныя судом вінаватымі ў зьдзейсьненых злачынствах. Судзьдзя Брагін прысудзіў трох маладых людзей, у тым ліку і непаўналетняга, да пазбаўленьня волі на год умоўна з адтэрміноўкай на год.

Суд праявіў прынцыповасьць і прызнаў невінаватымі двух падсудных у прыцягненьні да злачынных дзеяньняў свайго непаўналетняга прыяцеля. Абвінаваўчы бок ня змог даказаць іх віну. У заключэньні медэкспертызы гаворыцца, што юнакі ў тую ноч былі цьвярозыя. У той жа час судзьдзя Брагін на прапанову абароны адмовіўся выступіць з прыватнай пастановай наконт незаконнага выключэньня А. Мухіна і А. Гілевіча з універсітэту радыёэлектронікі, і параіў юнакам самім змагацца за свае правы.

**Андрэй НАЛІБОК**

# Фарс

12 траўня ў судзе Цэнтральнага раёна Менску быў працягнуты разгляд «першамайскай» справы лідэра "Народнай Грамады" Міколы Статкевіча, які быў схоплены, адседзеў трое сутак, а потым быў абвінавачаны ў арганізацыі несанкцыянаванага шэсьця. На судзе 4 траўня ў матэрыялах справы раптам не аказалася важнага дакумента, які пацьвярджаў удзел сацыял-дэмакратаў у дэманстрацыі, арганізаванай менскімі гарадскімі уладамі. За 8 дзён дакумент знайшоўся б, хаця ў паказаньнях сьведкаў-міліцыянтаў і ўтрымліваўся так званы «кампрамат» на Статкевіча, той быў апраўданы судзьдзём А. Барысёнкам. Ніякіх незаконных дзеяньняў за Статкевічам, такім чынам, няма. За што ж тады ён быў зьняволены?

Справа набывае яшчэ большую ступень канфуза для ўладаў, бо 10 удзельнікаў Першамаю былі абвінавачаныя за ўдзел у сьвяткаваньні па адміністратыўным артыкуле (а напачатку – яны былі зьбітыя, затрыманыя і кінутыя на 3 сутак у турму). Калі ж незаконнага шэсьця не было, за што рэпрэсавалі хлопцаў? Відаць, службы рэжыма ўжо працуюць «у запас»: хапаюць людзей і чакаюць, калі запусьцяць далейшыя механізмы рэпрэсіўнай машыны.

Гісторыя насамрэч паўтараецца як фарс. Днямі па тэлебачаньні паказалі фільм пра гестапа, зьняты амерыканцамі ў выглядзе камедыі. «Усіх без разбору хапаць, расстрэльваць і дапытваць!» — раве ў тэлефон вялікі чын у пагонах. А пасьля канфузу чуе пытаньне ад свайго паплечніка: «Слухай, а можа спачатку дапытаць трэба?»

У беларускім варыянце ахвяры рэжыму 1 траўня «усяго толькі» адсядзелі па трое сутак. Таму цалкам слушна, што пацярпелыя маюць намер абскардзіць незаконныя дзеяньні супрацоўнікаў «органаў» праз суд.

# Хроніка

*(Пачатак на стар. 1)*

*4 траўня* — жыхар г.Скідаля М.Валансевіч паведаміў газеце "Пагоня", што прадстаўнікі школьнай адміністрацыі ходзяць па хатах вучняў і агітуюць бацькоў напісаць заявы пра перавод навучаньня дзяцей зь беларускай на рускую мову.

*5 траўня* — пасьля шэсьця пад лозунгам "Свабоду палітычным ахвярам" людзьмі ў цывільным было схоплена некалькі чалавек, у тым ліку адзін з арганізатараў шэсьця Вадзім Канапацкі, Уладзімір Лабковіч, Сяргей Шмялёў, Зьміцер Марчук. Віктар Жагунь пры затрыманьні выбег на праезджую частку, дзе быў зьбіты машынаю. На рукі залітага крывёю В.Жагуня былі накінутыя кайданкі, ён укінуты ў міліцэйскую машыну і завезены ў РАУС Цэнтральнага раёна, і толькі потым была выклікана машына "хуткай дапамогі", якая завезла хлопца ў бальніцу.

*6 траўня* — як паведаміла газета "Навіны", цэнзары забаранілі на беларуска-швейцарскай фотавыставе ў Нацыянальным музеі паказ чатырох здымкаў. Інакш уся выстава не пабачыла б сьвет. Беларускі варыянт альбома выставы выйшаў зь белымі плямамі на месцы гэтых здымкаў.

*У траўні* — дэкрэтам прэзідэнта А.Лукашэнкі нацыяналізаваны ўсе аптэчныя ўстановы, што непазьбежна адаб'ецца на мажлівасьці людзей набываць лекі. а значыць і на здароўі жыхароў краіны.

# “Выбар” зрабіў свой выбар

## Хроніка аднаго змаганьня

27 ліпеня а 18.00 на вуліцу Леніна — цэнтральную вуліцу Віцебска — у самым яе пачатку каля пляцу Перамогі выехаў вершнік на кані зь бел-чырвона-белым сьцягам у руках. Ён праехаў па вуліцы ўніз да "Форуму", дзе некалькі дзён таму праводзіўся “Славянскі базар”, бесперашкодна перасёк скрыжаваньне вуліц Замкавая і Леніна. Аўтамабілі прыпынілі рух, прапусьцілі вершніка. Той праехаў каля пляцу Волі і паскакаў уверх да заканчэньня вуліцы Леніна. Каля былога будынку тэатра імя Якуба Коласа на пляцы Леніна звярнуў да Батанічнага саду і зьнік. Міліцыя была настолькі разгублена ад нечаканасьці і дзёрзкасьці ўчынку, што не змагла зрабіць ніякіх перашкодаў.

На 29 ліпеня выканаўцы прыпевак былі выкліканыя ў суд Чыгуначнага раёну да судзьдзі Фёдарава. Пайшоў у суд адзін Б. Хамайда і атрымаў трое сутак арышту. Тры дні запар выходзіў да “сіняга дома” У. Плешчанка зь пікетам у абарону Б. Хамайды. У першы дзень міліцыя яго не чапала. На наступны дзень ён быў затрыманы, на яго склалі пратакол і адвезьлі ў суд да судзьдзі Фёдарава. Той спаслаўся на занятасьць і справу перадалі разглядаць судзьдзі Лаксенкавай. На гэты раз судзьдзя парушэньня ў дзеяньнях абвінавачанага не знайшла. На трэці дзень арышту быў датэрмінова вызвалены і Б. Хамайда які перад гэтым аб’явіў галадоўку.

У жніўні некалькі разоў сябры арганізацыі “Выбар” ладзілі пікет і праводзілі збор подпісаў у абарону затрыманых журналістаў Шарамета і Завадскага. Тройчы, 15, 20 і 26 жніўня пікетоўцаў затрымлівалі супрацоўнікі Чыгуначнага РАУС. 15 жніўня судзьдзя Лаксенкава ў адносінах да У. Плешчанкі судовую справу прыпыніла, а справа ў адносінах да Б. Хамайды была перадзена на разгляд у суд Першамайскага раёна дзеля аб’ектыўнага разгляду. 13 кастрычніка суд Першамайскага раёна разгледзеў яе “аб’ектыўна” і Б. Хамайда атрымаў штраф у 30 млн. руб.

Па фактах затрымання 20 і 26 жніўня пікетоўцы па позвах у суд не зьявіліся. Завочна 16 кастрычніка Б. Хамайда за пікет 20 жніўня толькі што прызначаным новым судзьдзём Кастрычніцкага раёна па адміністратыўных справах Сьвятланай Туфан быў апраўданы. А ўжо 25 кастрычніка тая ж судзьдзя таксама завочна за такі ж пікет, што праходзіў 26 жніўня, прысудзіла Б. Хамайду арышт на 10 сутак.

8 верасьня ўвечары сябры арганізацыі “Выбар” наладзілі на пляцы Волі пікет у гонар перамогі ваяроў К. Астрожскага над Маскоўскім войскам на Крапівінскім полі. Пікетоўцы трымалі ў руках інфармацыйныя плакаты аб гэтай падзеі і бела-чырвона-белыя сьцягі. Прыкладна праз паўгадзіны міліцыяй Кастрычніцкага РАУС пікет быў разагнаны, а Юрась Карпаў, Барыс Хамайда і Уладзімір Плешчанка былі затры-м... ія і дастаўленыя ў пастарунак, дзе ... былі складзеныя пратаколы аб па-...ньні дэкрэта № 5 Прэзідэнта. Калі ...ьцямнела, усе трое былі адпушчаныя. ...а позвы ў суд Кастрычніцкага раёна ...іхто не зьявіўся.

30 верасьня судзьдзя Кастрычніцкага раённага суда па адміністратыўных справах Дудчанка завочна прысудзіла кожнаму па 10 сутак адміністратыўнага арышту. Але рашэньне гэтае на сёньняшні дзень засталося нявыкананым.

У канцы верасьня адбылося высяленьне рэдакцыі газеты “Выбар” з па-



мяшканьня, якое яна займала з кастрычніка 1991 года. Памяшканьне гэтае было прадстаўлена рэдакцыі па рашэньні аблвыканкама як газеце дэмакратычнага накірунку на плошчах газеты абкама партыі “Віцебскі рабочы”. Рашэньне гаспадарчага суда аб высяленьні з гэтых плошчаў газеты “Выбар” было прынятае з парушэньнем працэсуальнага заканадаўства. Першы раз пасьля рашэньня суда ў пачатку верасьня высяленьне не адбылося дзеля таго, што рэдакцыя ў знак пратэсту добраахвотна пакінуць памяшканьне адмовілася, а супрацоўнікі газеты “Віцебскі рабочы”, якім памяшканьне вярталася, фізічную сілу супраць Б. Хамайды прымяняць пабаяліся. Супрацоўнік жа міліцыі ў справу ня ўмешваўся, а моўчкі назіраў. Судовым выканаўцам быў прызначаны новы тэрмін высяленьня.

На гэты раз новыя-старыя гаспадары памяшканьня запрасілі на дапамогу казакоў атамана Афанасьева. Тыя ў сваёй форме ўляцелі ў памяшканьне і разам з журналістам “Віцебскага рабочага” А. Касьцюкевічам схапілі Б. Хамайду і хацелі выкінуць сілай. Але той загадзя прычапіўся ланцугом да ацяпляльнай батарэі. За Б. Хамайду пачаў заступацца Юрась Карпаў. Таго казакі выпхнулі сілай. Не пусьцілі ў памяшканьне і Вольгу Кладаву, якая прыйшла ў рэдакцыю з 10 гадовым сынам. А. Касьцюкевіч пабег шукаць пілку па металу, каб перапілаваць ланцуг... Аперацыя высяленьня цягнулася больш за гадзіну. Супрацоўнік міліцыі, як і першы раз, назіраў за ўсім гэтым моўчкі. Казакі перапілавалі ланцуг і вынесьлі Б. Хамайду з памяшканьня.

Усю восень і пачатак зімы 1998 г. каля “сіняга дому” выстаўляўся пікет для распаўсюджваньня незалежнай прэсы. За гэты час Б. Хамайда некалькі разоў затрымліваўся супрацоўнікамі Чыгуначнага РАУС і дастаўляўся ў суд да судзьдзі Сьвятланы Туфан. Яна парушэньні з боку Б. Хамайды не знаходзіла. Але пасля ўнясеньня змяненьняў Лукашэнкаўскай палатай у артыкул 167-1 Адміністратыўнага кодэксу РБ свае адносіны зьмяніла і вырашыла жорстка караць "парушальнікаў".

15 студзеня за плакат “Беларусь — наш дом, наш храм, наша Бацькаўшчына-Маці” Б. Хамайда атрымаў 3-е сутак адміністратыўнага арышту.

16 студзеня за інфармацыйны плакат, у якім паведамлялася за што адбывае пакараньне Б. Хамайда, Уладзіміра Плешчанку міліцыя не чапала. Не чапалі некалькі дзён пасля адсідкі Б. Хамайду за той жа плакат “Беларусь — наш дом, наш храм, наша Бацькаўшчына-Маці”. Але 23 студзеня ён быў затрыманы разам зь Ю. Марозам, і тая ж судзьдзя С. Туфан пасадзіла Б. Хамайду і Ю. Мароза на 10 сутак кожнага.

Некалькі дзён у знак пратэсту ладзіў пікет У. Плешчанка. Амаль кожны дзень міліцыя дастаўляла яго ў пастарунак, але судзьдзя Туфан разгляд спраў на кожнае затрыманьне рабіць адмаўлялася, калі ж надышоў час выхаду з-пад арышту Ю. Мароза і Б. Хамайды, яна прысудзіла 2 лютага 10 сутак арышту У. Плешчанку.

Цяпер ужо ў знак пратэсту сталі ладзіць пікеты Ю. Мароз і Б. Хамайда. На дзіва, судзьдзя С. Туфан за пікет 10 і 11 лютага Барыса Хамайду да адказнасьці прыцягваць ня стала, а Ю. Марозу 11 лютага за пікет 10 лютага прысудзіла штраф у 37.5 млн. руб. За пікет жа 11 лютага разгляд справы ў адносінах да Ю. Мароза перанесла на 24 лютага. Але той у гэты час адбываў пакараньне 15 сутак адміністратыўнага арышту за наладжаны пікет у Менску пад час суда над Шыдлоўскім і Лабковічам і разгляд справы быў перанесены на 11 сакавіка. У гэты дзень Ю. Мароз атрымаў яшчэ адно пакараньне ў памеры 37.5 млн. руб. штрафу.

Такім чынам, толькі маральная падтрымка Уладзіміра Плешчанкі каштавала Юрыю Марозу 75 млн. руб. штрафу.

Але такія пакаранні ўжо страчваюць усялякую рэальнасьць. І ўвогуле яны бываюць страшнымі толькі да першага прысуду... Віцебскіх змагароў з рэжымам яны ўжо не спыняюць і ня спыняць.

*(Працяг. Пачатак у №8)*

# У спратах "Валадаркі"

## Калонія-4

Да заканчэньня тэрміну зьняволеньня мне заставалася менш за месяц. Дзень вызваленьня прыпадаў на нядзелю 22 чэрвеня. Па законе, калі вызваленьне выпадае на "чырвоны" дзень календара, ён залічваецца на карысьць асуджанага. Хадзіць на працу ў мяне асаблівага жаданьня не было, ды і адміністацыя калоніі на гэтым не настойвала. У апошнія дні траўня быў чарговы этап, і адміністрацыя ў першую чаргу імкнулася забяспечыць працаю новых асуджаных. Каб неяк заняць-"забіць" час па тры-чатыры разы на дзень мы заварвалі «чыф». Але і гэта не ратавала. Дні цягнуліся марудна.Адзіным вартым заняткам для мяне заставалася чытво.

Аднойчы я наводзіў парадак у сваёй тумбачцы — выкідваў зь яе старую, ужо некалькі разоў перачытаную і непатрэбную прэсу. Да мяне падышоў зэк і ветліва сказаў: «Спадар Мікола, дазвольце папрасіць у вас часопіс «Крыніца»...

Мяне гэта міжволі ўразіла. Папершае, раней мае суседзі не цікавіліся часопісам «Крыніца». Па-другое, зэк зьвярнуўся да мяне на чыстай літаратурнай беларускай мове Перада мною стаяў 45-ці гадовы мужчына з апошняга этапу. нае «паганяла» (мянушка): Прафесар. Мусіць, далі яму такое «паганяла» за шырокую пралысіну і акуляры з тоўстымі лінзамі. Ен пачаў гартаць часопіс і спыніўся на старонцы, дзе былі надрукаваныя вершы і ўспаміны Натальлі Арсеньневай. "Цудоўная паэтка, мы праходзілі яе творчасьць па пазакласным чытаньні, але ж у тыя часы я ня змог знайсьці вучням яе зборніка", — са шкадаваньнем прамовіў Прафесар. Я жартам спытаў: "Каб знайсьці вершы Натальлі Арсеньнеевай неабходна патраціць за краты?" Ен крыху памаўчаў, а калі зразумеў, што знайшоў суразмоўцу, распавёў гісторыю аб тым, як апынуўся за кратамі. Пасля заканчэньня Гомельскага ўніверсітэта ён працаваў настаўнікам роднай мовы і літаратуры. Празь нейкі час стаў завучам вясковай школы. Начальніку РАНА перспектыўны настаўнік прыйшоўся недаспадобы. Яму падалося, што вясковы завуч імкнецца заняць ягонае мейсца. У школе пачаліся шматлікія праверкі. Пасьля чарговай камісіі кампрамат на завуча быў знойдзены. "Высьветлілі", што завуч нібыта прыпісваў сабе лішнія гадзіны і атрымліваў за гэта грошы. Папрасілі звольніцца па ўласным жаданьні. Ён адмовіўся. Справу перадалі ў раённы суд, які прысудзіў Васілю Васільевічу два гады ППР(папраўчапрацоўныя работы) па месцы працы з выплатай 15 працэнтаў ад заробку на карысьць дзяржавы. Пры гэтым з працы ў школе яго звольнілі. На працягу года беспрацоўны вясковы настаўнік не здалеў знайсьці іншую працу, і каб пракарміць сябе і маціпенсіянерку займаўся ўласнай гаспадаркай. Пры гэтым ён штомесяц пасылаў скаргі ў розныя інстанцыі. Праз год ён атрымаў позву ў суд. Як законапаслухмяны грамадзянін Васіль Васілевіч апрануў чысьценькі касьцюм, белую кашулю і накіраваўся ў горад Гомель. Але ж вярнуцца ў родную хату яму ужо не давялося. За нявыплату прысуджаных 15 працэнтаў у бюджэт дзяржавы мера пакараньня яму была зьмененая на пазбаўленьне волі. З залы суда ён быў дастаўлены ў гомельскую турму, а праз два месяцы этапам — у калонію пасяленьня.

Па словах настаўніка, два месяцы турмы падаліся яму жахлівым пеклам. З іншых крыніцаў я даведаўся, што ў турме яго перАтварылі ў «каня». Гэта значыць, што ён штодня прыбіраў «хату» і цягаў бачок з дзярмом (у гомельскай турме у камерах адсутнічаюць унітазы, таму даводзіцца карыстацца бачкамі).

У калоніі ён уздыхнуў з палёгкай, але сутыкнуўся зь іншымі цяжкасьцямі. Пяць дзён ён соўгаўся па калоніі з надзеяй, што яго пашлюць на працу. Харчаваўся на 20 тыс. пад'ёмных, выдадзеных адміністрацыяй калоніі ў першы дзень. На іх ён змог набыць два бохана чорнага хлеба і пачак сечкі. Белая кашуля ўжо даўно стала цёмна-шэрай, а прыстойны некалі касьцюм нагадваў звычайнае рызьзё. Прыняць беспрацоўнага і ў калоніі настаўніка ў сваю «сям'ю» я ня мог, але ж аказваць падтрымку яму, пераважна харчамі, пачаў рэгулярна. Недзе праз тыдзень ён атрымаў працу. Але ж асаблівай выгоды ад гэтага не займеў. У сутарэньні пад баракам адміністрацыя калоніі вырашыла зрабіць бібліятэку і прызначыла былога школьнага завуча яе загадчыкам. Тут знаходзілася каля трох тысяч кніг, спісаных з іншых бібліятэк. Начальнік калоніі загадаў зрабіць каталог, гэтым і заняўся Васіль Васілевіч .

Каб выжыць у калоніі тым, каму не ідзе «падагрэў» з волі, даводзіцца добра круціцца. Празь нейкі час гэта зразумеў і Васіль Васільевіч. Штовечар ён прыносіў па некалькі кніг, якія мяняў у зэкаў на цыгарэты, якія потым абменьваў на харчы. Я не зьвяртаў на ягоную "хітрасьць" увагі, бо яна падавалася тут такой натуральнай. У вольную хвіліну Прафесар не спыняўся пісаць скаргі ва ўсе інстанцыі: даводзіў сваю невінаватасьць. Лісты ня мелі ніякага выніку.

Апошні ліст, складзены на 12 старонках, быў адрасаваны прэзідэнту Рэспублікі Беларусь Аляксандру Лукашэнку.



**Мікола КАЧАН**

*(Працяг будзе)*

---

*(Працяг. Пачатак у №№2-3, 5-8)*

**Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96".Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў. Адрас рэдакцыі: 220007 Менск, а/с 88.E-mail:spring96@cscsc.lingvo.minsk.by>. Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.**

*У нумары скарыстаны малюнкі А. Карповіча і фотаздымкі з архіву Цэнтра "Вясна-96"*